Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 50 (5381)
Аўторак, 23 красавіка 2002 года

З дакладных крыніц

## Вызначыць адзіную стратэгію

**26-27 красавіка пройдзе Рэспубліканская нарада па праблемах удасканалення дзейнасці агульнаадукацыйнай школы ў сучасных умовах. Каментар да гэтай падзеі даў нашай газеце першы намеснік Міністра адукацыі Аляксандр Іванавіч ЖУК.**



– У нарадзе, якую плануем правесці на базе мінскага Палаца дзяцей і моладзі, прыкладна будзе ўдзельнічаць 200 чалавек. Гэта прадстаўнікі ўсіх узроўняў кіруючай вертыкалі сістэмы адукацыі нашай краіны. У тым ліку на сход збяруцца загадчыкі раённых і гарадскіх аддзелаў адукацыі, начальнікі абласных упраўленняў і Мінскага гарадскога камітэта па адукацыі і справах моладзі, а таксама прадстаўнікі іншых адукацыйных структур.

На абмеркаванне ўдзельнікаў нарады будуць вынесены тры асноўныя блокі пытанняў.

У першым, як адным з самых злабадзённых, утрымліваюцца арганізацыйныя, тэхнічныя, кіраўнічыя праблемы пераходу агульнаадукацыйных школ на пяцідзённы вучэбны і шасцідзённы рабочы тыдзень. Як вядома, у Брэсцкай вобласці ўжо праходзіць эксперымент па арганізацыі такога пераходу, таму, натуральна, на пасяджэнні будуць абмеркаваны вынікі зробленай брастчанамі работы, вызначаны найбольш важныя праблемы, якія ўзніклі ў ходзе гэтага працэсу, і пазначаны шляхі іх вырашэння.

Актуальнымі тут стануць і пытанні, звязаныя з удакладненнем вучэбных планаў і праграм, удасканаленнем школьных падручнікаў, а таксама арганізацыя адукацыйнага працэсу ў шосты, суботні дзень.

У гэтым жа блоку – праблема рацыяналізацыі сеткі адукацыйных устаноў. Пытанні іх аптымізацыі, узбуйнення, а таксама арганізацыі падвозу дзяцей неабходна будзе вырашаць кіруючым органам.

Другі блок пытанняў прысвечаны арганізацыі выхаваўчай і фізкультурна-аздараўленчай работы ў школах, як у сувязі з пераходам на пяцідзённы вучэбны тыдзень, так і ўвогуле. Перанапружанне нашых навучэнцаў павінна быць ухілена шляхам арганізацыі здароўезберагальнага вучэбна-выхаваўчага працэсу, павелічэння часу знаходжання школьнікаў на свежым паветры, перагляду падыходаў у фізкультурна-аздараўленчай і пазакласнай рабоце, павелічэння ўплыву ў гэтым працэсе бацькоў.

Акрамя таго, з улікам патрабаванняў сённяшняга жыцця трэба ўдакладніць і скарэкціраваць прыёмы выхаваўчай работы з рознымі катэгорыямі навучэнцаў, акцэнтуючы ўвагу на пытаннях патрыятычнага і маральнага выхавання нашых дзяцей.

Трэці блок пытанняў уздымае дастаткова новыя для нашай сістэмы праблемы. Гэта фінансавая дзейнасць навучальных устаноў і эканоміка адукацыі.

Ва ўмовах базавага фінансавання сістэмы адукацыі, калі дзяржава забяспечвае адукацыйны працэс толькі ў рамках рэалізацыі стандарту адукацыі, развіццё пазабюджэтнай дзейнасці навучальных устаноў набывае вялікую значнасць.

Дарэчы, такая дзейнасць ужо праводзіцца. У нашай сістэме адукацыі, і ў прыватнасці гарадскіх і сельскіх школах, прафтэхустановах, ужо маюць цікавы вопыт, які заслугоўвае ўвагі. На гэтым мерапрыемстве будуць абмеркаваны пытанні нарматыўна-прававой базы (акрэслены пытанні развіцця пазабюджэтнай дзейнасці навучальных устаноў, удакладнены пералік розных роду адукацыйных паслуг, умовы выкарыстання фінансавай дысцыпліны).

Хацелася б коратка спыніцца на парадку правядзення Рэспубліканскай нарады. Мяркуецца, што па кожным азначаным блоку пытанняў будзе зроблены загаловачны даклад. Пасля работа прадоўжыцца ў секцыях. На пленарным пасяджэнні кіраўнікі кожнай секцыі прадставяць інфармацыю аб узнятых праблемах і шляхах іх вырашэння на ўсіх узроўнях: дзяржавы, урада, Міністэрства адукацыі, абласных і раённых структур.

Адметна тое, што да нарады падрыхтаваны разнапланавы раздатачны матэрыял, які ўключае аналіз ужо назапашанага вопыту, нарматыўна-прававую дакументацыю, метадычныя рэкамендацыі.

Трэба думаць, што на гэтай нарадзе будзе зверaны курс Міністэрства адукацыі з усімі кіруючымі структурамі рэгіёнаў. Выпрацоўка агульных падыходаў дазволіць вызначыць адзіную стратэгію дзейнасці на бліжэйшы час.

**Гутарыла Ала КЛЮЙКО.**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

## Грошы — справа камп'ютэра?

***10 сакавіка на бензазапраўцы па вуліцы Дзяржынскага двое маладых людзей спрабавалі збыць фальшывую пяцітысячную купюру. Аднаму было крыху за дваццаць, другому - шаснаццаць. Адбывалася гэта глыбокай ноччу, але аператар заўважыла, што купюра фальшывая. Абодва фальшываманетчыкі былі затрыманы.***

Пасля, у выніку следча-пошукавых мерапрыемстваў, былі затрыманы яшчэ чатыры чалавекі ва ўзросце ад 16 да 22 гадоў. Трое з гэтай групы – непаўналетнія. Андрэй Ш. – вучань школы, Ігар Н. і Аляксандр С. – навучэнцы прафесійна-тэхнічных вучылішчаў. Друкаваліся купюры на камп'ютэры, якім дасканала валодаў Дзмітрый П., студэнт эканамічнага універсітэта. Высветлілася, што фальшывыя купюры распаўсюджваліся па ўсім горадзе, ужо вядома, што іх было рэалізавана больш за 70. І гэтая лічба – не канчатковая. Пражывалі "ўмельцы" у раёне вуліц Грушаўская – Чыгуначная. Пра групу фальшываманетчыкаў ведалі многія жыхары раёна, але ніхто не палічыў патрэбным (ці не хацеў) паведаміць у міліцыю. Вынікам дзейнасці маладых людзей можа стаць пазбаўленне волі тэрмінам ад пяці да пятнаццаці гадоў.

У размове са мной намеснік начальніка аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Маскоўскага РУУС сталіцы Андрэй Вячаслававіч Сачкоў адзначыў, што падлеткі, якія толькі становяцца на сцяжынку злачынстваў, не ўсведамляюць да канца ўсіх наступстваў. Вядома, у пятнаццаці-, шаснаццацігадовых – шмат жаданняў, якія не заўсёды супадаюць з магчымасцямі. Усе члены злачыннай групоўкі, акрамя аднаго, – са звычайных сем'яў, маюць абодвух бацькоў. Ды і ўвогуле, не кожная сям'я можа сабе дазволіць мець камп'ютэр. Таму ніяк нельга сцвярджаць, што грошы друкаваліся дзеля кавалка хлеба.

Не паспеў прайсці месяц з моманту выяўлення згаданай групы, як у поле зроку праваахоўных органаў трапіла другая група падлеткаў, у складзе якой – увогуле толькі непаўналетнія ад 11 да 17 гадоў. Усе яны – вучні сярэдняй школы ў сталічным мікрараёне Малінаўка. І што цікава – аб тым, што на камп'ютэрах друкуюцца грошы, ведала калі не ўся школа, дык палова вучняў – дакладна. Збывалі грошы фальшываманетчыкі, як правіла, у камерцыйных крамах у другой палове дня, бліжэй да вечара. І калі з пяцітысячнай купюры атрымлівалі здачу нармальнымі грашовымі знакамі, адчувалі проста-такі дзіцячае захапленне. Апетыт разгараўся. І пачалося друкаванне дзесяцітысячных, а пасля і дваццацітысячных купюр. Менавіта на апошняй і атрымаўся пракол. Зараз усе члены групы знаходзяцца пад падпіскай аб нявыездзе.

Па словах Андрэя Вячаслававіча, у школах квітнее актыўны гандаль. Напрыклад, украдзеныя з машын магнітолы падлеткі прадаюць сваім аднакласнікам. Як і іншыя рэчы, часам купленыя за фальшывыя грошы.

І апошняе. Нашы дзеці жывуць у рэальным свеце і не могуць не бачыць, як дарослыя часам атрымліваюць грошы. Прычым не заўсёды сумленна. Вось і стараюцца падлеткі паспрабаваць сябе ў ролі Астапа Бэндэра – а раптам атрымаецца? У выніку ж – як у той прымаўцы: "Хацелі як лепш, а атрымалася як заўсёды".

**Ала ШАЎЦОВА.**

Нарады

## Педагогіка кіравання

***Кожнае чарговае пасяджэнне прэзідыума Рэспубліканскага савета Беларускага педагагічнага таварыства розніцца ад папярэдняга ўсё большай надзённасцю, актуальнасцю ўзнятых пытанняў, узроўнем падрыхтоўкі, разуменнем запатрабаванасці рэформы, якая закранула сярэднюю школу.***

На гэты раз на ім ішла размова пра сучасную спецыфіку кіраўніцтва педагагічным калектывам сярэдняй школы.

Старшыня Беларускага педагагічнага таварыства рэктар БДПУ імя М.Танка, акадэмік Леанід Ціханаў зазначыў, што роля кіраўніка педагагічнага калектыву набыла асаблівую значнасць цяпер. Менавіта ад яе залежыць дзейнасць школы як навучальнай установы. Тым больш, што рэформа здзяйсняецца ў даволі складаных сацыяльна-эканамічных умовах.

У перспектыве, пазначана ў прэамбуле пастановы пасяджэння прэзідыума, значэнне дзейнасці кіраўніка навучальнай установы будзе няўхільна набываць усё большую вагу, бо стратэгія развіцця нашай дзяржавы вызначае пераход да постіндустрыяльнага грамадства, у якім вырашальным фактарам развіцця стане інтэлектульны рост нацыі. А ён, у сваю чаргу, грунтуецца на развіцці навукі і адукацыі.

Менавіта ў гэтым рэчышчы прыцягнула ўвагу метадыст кабінета кіруючых кадраў вучэбна-метадычнага цэнтра Камітэта па адукацыі і справах моладзі Мінскага гарвыканкама Надзея Маркоўцава.

Спасылаючыся на ўласны вопыт (Надзея Міхайлаўна мае звыш 20 гадоў дырэктарскага стажу), яна найперш скіравала ўвагу прысутных на статус кіраўніка сярэдняй школы, удакладненне абавязкаў дырэктара ў непасрэднай вучэбна-выхаваўчай практыцы, спалучэнне іх з задачамі матэрыяльна-гаспадарчага плана.

З яе паведамлення лагічна ўзнікла пытанне: дзе і хто рыхтуе кандыдатаў на дырэктарскую пасаду?

Як слушна і дарэчы прагучаў зварот да вучоных: пара павярнуцца тварам да дырэктара агульнаадукацыйнай сярэдняй, базавай школы.

Сказанае Надзеяй Міхайлаўнай знайшло водгук. Яе падтрымалі ў тым плане, што дырэктар, як кіраўнік педкалектыву, павінен знаходзіцца ў полі зроку педагагічнай навукі, мець магчымасць атрымліваць грунтоўную перападрыхтоўку на спецыяльных курсах на базе БДПУ імя М.Танка.

Дырэктар сярэдняй школы № 66 сталіцы, выдатнік адукацыі Таццяна Васільеўна Базылева ў кароткім, але змястоўным выступленні здолела на прыкладах праілюстраваць, што кіраўніку школы даводзіцца спалучаць блок найпершых у яго полі зроку пытанняў ( вучэбных, выхаваўчых і метадычных) з праблемамі, якія тычацца матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння навучальнай установы.

І ўсё ж у школе № 66, нягледзячы на гаспадарчыя цяжкасці здолелі стварыць музей, які апавядае пра тых выпускнікоў школ Савецкага раёна сталіцы, якія зведалі жахі вайны ў Афганістане. Арганізацыяй, удасканаленнем экспазіцыі, даследчай работай вучні займаюцца пад кіраўніцтвам выкладчыкаў гуманітарных дысцыплін. Гэта ў сваю чаргу выклікала і павышаную ўвагу да былых удзельнікаў Айчыннай вайны.

Зыходзячы з уласнай педагагічнай практыкі, дырэктарскага стажу, Таццяна Васільеўна ў канцы свайго выступу канстатавала:

– Добрых настаўнікаў у школе — пераважная большасць.

Мабыць, не выклікала неабходнасці дырэктара сярэдняй школы № 218 сталіцы Валерыя Рыгоравіча Макарчука (на пасадзе кіраўніка навучальнай установы ён каля года) пры асвятленні праблем прафесійнага станаўлення маладога кіраўніка задаць кадравыя пытанні, як і пытаннямі пошуку шляхоў выхаду на рынак агульнаадукацыйных паслуг, работы з бацькамі. Валерый Рыгоравіч заявіў, што бацькі ніяк раз пераадрасоўваюць свае абавязкі па выхаванні дзяцей менавіта школе, не ўсведамляючы, што гэтым павінны займацца і самі. Адсюль неабгрунтаваныя прэтэнзіі школе.

Пасяджэнне прэзідыума, выступы дырэктараў, прысвечаныя спецыфіцы кіраўніцтва педагагічным калектывам сярэдняй школы, выклікалі канструктыўнае абмеркаванне тэмы. Так, рэдакцыі "Настаўніцкай газеты" прапанавана аднавіць рубрыку "Трыбуна дырэктара школы", якая павінна садзейнічаць паўнацэннаму і прадметнаму абмену вопытам дзейнасці кіраўніка педкалектыву ў сучасных умовах.

Слушнасцю адрозніваліся выступленні ў спрэчках намесніка галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Георгія Бутрыма, загадчыка кафедры акмеалогіі Гомельскага дзяржаўнага абласнога ІПК прафесара Мікалая Кухарава, прафесара кафедры педагогікі БДПУ імя М.Танка Мікалая Міцкевіча, загадчыка аддзела культуралогіі Нацыянальнага інстытута адукацыі доктара філасофскіх навук, прафесара Вадзіма Салеева і інш.

Пастанова прэзідыума прынята з улікам узнятых праблемных пытанняў.

У прыватнасці члены прэзідума педагагічнага таварыства сышліся на прапанове аб неабходнасці стварэння картатэкі-даведніка "Вопыт работы дырэктараў школ рэспублікі па кіраванні педагагічнымі калектывамі ва ўмовах рэформы школы".

Пагадзіліся яны і на мэтазгоднасці правядзення рэгіянальных семінараў з кіраўнікамі сярэдніх навучальных устаноў.

Словам, педагогіка кіравання заявіла пра сябе.

**Уладзімір НОВІК.**

## Ізноў пра харчаванне

***Ва ўпраўленні адукацыі і па справах моладзі Фрунзенскага раёна сталіцы адбылося чарговае пасяджэнне калегіі па тэме "Арганізацыя харчавання дзяцей і падлеткаў у дашкольных установах і ў сярэдніх школах раёна".***

***Пацверджаннем актуальнасці гэтага пытання стаў удзел у ім кіраўніцтва Фрунзенскага райвыканкама, цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, камбіната школьнага харчавання.***

Калегія праходзіла на базе мінскай школы № 38. І як аказалася, гэты адрас быў выбраны невыпадкова. Днямі тут адкрылася школьнае кафэ, назву якому далі самі дзеці – "Дубровачка". Жоўта-зялёныя фарбы яго залы, сурвэтак, абрусаў і фіранак, мноства кветак нагадвалі сапраўдную дуброву, дзе вельмі прыгожа і ўтульна. Але гэта – сёння.

Школе споўнілася трыццаць гадоў, і, канешне, сталоўка даўно патрабавала рамонту. Дырэктар Валянціна Іосіфаўна Жураўская падышла да праблемы не традыцыйна, калі абмяжоўваюцца толькі касметычным рамонтам.

Вырашана было стварыць кафэ як цэнтр культуры і эстэтыкі. Тым больш, што вопыт такі ў іншых кіраўнікоў ёсць. На сённяшні дзень у некалькіх школах Фрунзенскага раёна ўжо працуюць аналагічныя кафэ. Фінансавымі сродкамі школе № 38 дапамаглі шэфы-заводы "МАПІД" і будаўнічых матэрыялаў. Трэба аддаць належнае кіраўнікам гэтых прадпрыемстваў, якія з разуменнем ставяцца да школьных праблем і заўсёды іх вырашаюць. Адчувальна дапамога і бацькоў.

Астатнія ўстановы, як зазначыла начальнік упраўлення адукацыі і па справах моладзі Мар'яна Шчоткіна, па магчымасці абнавілі сёлета абсталяванне і мэблю. Было набыта за гэты навучальны год каля 200 адзінак гандлёва-тэхналагічных прылад. Шкада, што гэтае абнаўленне ідзе ў асноўным толькі за кошт бюджэтных сродкаў, якіх, як вядома, недастаткова.

Калі гаварыць увогуле пра арганізацыю харчавання, дык, па словах намесніка кіраўніка Адміністрацыі Валянціны Лукашонак, у раёне імкнуцца яго забяспечыць без перабояў. Адметна, што, па рашэнні райвыканкама, каля трох тысяч навучэнцаў атрымліваюць бясплатнае харчаванне, 1200 дзяцей бясплатна і па льготах харчуюцца на аснове той дапамогі, якая выдзелена малазабяспечаным сем'ям.

Бясплатным і льготным харчаваннем забяспечаны ў раёне дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. А ўсяго пазбаўлена аплаты за харчаванне 11 працэнтаў навучэнцаў.

Усе школы Фрунзенскага раёна арганізоўваюць падтрымліваючае і гарачае харчаванне. Большасць школьнікаў 1-11 класаў атрымліваюць экспрэс-сняданкі. 35 школ практыкуюць арганізацыю сняданкаў з бацькоўскай дапамогай. Такой формай карыстаюцца ў асноўным пачаткоўцы, вучні профільных і спецыялізаваных класаў. Асобныя навучальныя ўстановы ўкараняюць экспрэс-сняданкі па тыпу "шведскага стала".

Але пры ўсім гэтым праблема застаецца па-ранейшаму адкрытай. Недахоп фінансавання не дазваляе ў поўнай меры палепшыць харчаванне дзяцей, вядзе да яго скарачэння. У мэтах эканоміі сродкаў пастановай Мінгарвыканкама па суботах адменены экспрэс-сняданкі для усіх дзяцей. З 20 мая яны будуць спынены для вучняў старшых класаў.

Калі гаварыць пра наступны навучальны год, дык праграмай эканоміі бюджэту прадугледжана адмена экспрэс-сняданкаў для сярэдняй і старшай школы. Актуальнай будзе арганізацыя гарачага харчавання за бацькоўскую плату. Таму ўжо сёння, як сказала дырэктар камбіната школьнага харчавання Фрунзенскага раёна Лідзія Васільева, з дырэктарамі школ праводзіцца шматпланавая работа па азначанай праблеме.

У першую чаргу трэба актывізаваць работу буфетаў у школах, якія, магчыма, заменяць у нейкай меры экспрэс-харчаванне. З гэтай мэтай камбінат школьнага харчавання плануе набыць абсталяванне для выпякання булачнай прадукцыі і, у першую чаргу, ратацыйную печку. У новым навучальным годзе таксама плануецца арганізацыя гарачых сняданкаў для навучэнцаў ліцэяў і гімназій.

У камбінаце школьнага харчавання дзейнічае тэхналагічная служба, якая кантралюе якасць харчавання ў школах. Адметна, што за гэты навучальны год тэхналагічнай лабараторыяй зроблена больш тысячы аналізаў прадукцыі. З іх толькі 7 працэнтаў далі адмоўны вынік. У параўнанні з паказчыкамі ўвогуле па гораду гэты – удвая меншы.

Якасцю харчавання была занепакоена ў сваім выступленні і загадчык школьнага аддзела цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Алена Барысевіч. Яна адзначыла, што практычна здаровымі ў раёне з'яўляюцца толькі 7 працэнтаў навучэнцаў, і прыкметны рост захворванняў дзяцей адбываецца ў працэсе вучобы. Процістаяць гэтаму можна толькі дзякуючы арганізацыі збалансаванага харчавання. А гэта, у сваю чаргу, магчыма толькі пры сумесных дзеяннях як кіраўнікоў навучальных устаноў, так і бацькоў.

На пасяджэнні калегіі разглядаліся і іншыя пытанні.

**Ала КЛЮЙКО.**

> *Каб навучыць іншага, патрабуецца больш розуму, чым каб навучыцца самому.*
>
> **М.МАНТЭНЬ.**

*"НГ" у гасцях у Бабруйскага вучэбнага комплекса школа-каледж мастацтваў*

## Дом грацыі і творчасці



Напачатку была мара аб прыгожай школе мастацтваў, дзе, нібы ў храме, будуць панаваць Грацыя, Прыгажосць, Гармонія, Творчасць, Культура! І мара стала рэчаіснасцю дзякуючы самаадданай, нястомнай працы закаханых у яе, апантаных, таленавітых людзей. Так нарадзілася школа-каледж. І неўзабаве ў душах юных гаспадароў гэтага дома пасялілася мара — адбыцца, здзейсніцца, набыць тут крылы для палёту творчасці ў дарослым жыцці. Сёння пад дахам гэтага своеасаблівага храма вучыцца каля трохсот дзяцей, у тым ліку і студэнтаў каледжа.

Школа-каледж ужо мае свой адметны твар і свае дасягненні. Яе вучні – актыўныя ўдзельнікі гарадскіх прадметных алімпіяд, творчых конкурсаў, нацыянальных святаў, прызёры абласных фестываляў харэаграфіі і тэатральнага мастацтва, фіналісты рэспубліканскага конкурсу "Зорная ростань".

Дзеці разам з педагогамі стварылі музычна-харэаграфічныя спектаклі "Беласнежка і сем гномаў", "Я помню дзіўнае імгненне", "Шчаўкунчык", "Аднойчы ў горадзе", "Цуды, дый годзе", "Спячая прыгажуня", "Вясёлы маскарад".

Тут паспяхова дзейнічаюць харэаграфічны ансамбль "Задоринки" для вучняў 1-5 класаў (кіраўнік А.А.Цішкевіч), ансамбль "Акварэлі" (кіраўнік Т.А.Бышыкоўская (для 5-7 класаў), фальк-шоу "Альянс" (кіраўнік А.С.Лукашэвіч), гурток дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Натхненне" (кіраўнік Л.І.Кушчанка) і інш.

Самая яскравая традыцыя школы-каледжа – штогадовы конкурс "Фантазія", яго ўдзельнікі (літаральна ўсе вучні школы) маюць магчымасць рэалізаваць напоўніцу сваю творчую думку, артыстызм пераўвасаблення, духоўнасць. Гэта не толькі свята – гэта ўрачыстасць творчасці, невычэрпная крыніца самаўдасканалення. Сутнасць галоўнай педагагічнай задачы калектыву – натхніць кожнага выхаванца на радасць мыслення, творчасці, імкненне да духоўна багатага жыцця ў свеце думкі і прыгажосці.

У гэтай школе непадзельна жывуць навука і мастацтва, дапаўняючы і ўзбагачаючы адно аднаго. І калі не ўсе выхаванцы школы-каледжа стануць харэографамі, артыстамі, музыкантамі, мастакамі, яны абавязкова здзейсняцца як людзі творчай працы, так неабходнай нашаму грамадству.

Выяўляюць, адкрываюць, рассакрэчваюць, развіваюць здольнасці, адоранасць, талент кожнага са сваіх выхаванцаў, робяць іх асобамі таленавітыя, творчыя педагогі, харэографы, музыканты школы-каледжа пачынаючы з падрыхтоўчага класа (д/сад), працягваючы ў пачатковых, сярэдніх класах і завяршаючы навучаннем у каледжы (10-12 класы) набыццём выпускнікамі спецыяльнасці "Артыст ансамбля народнага танца, выкладчык харэаграфіі і рытмікі".

Сёння, шаноўныя чытачы, мы запрашаем вас у гэты сапраўдны дом радасці, гармоніі і прыгажосці.

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ,**
**рэдактар аддзела праблем выхавання.**

НА ЗДЫМКУ: Андрэй Быхоўчанка (I курс) і Арына Кнарус (III курс) выконваюць іспанскі танец.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

*(Працяг на 3-й стар.)*

